

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 33(418)** **18 ЖНІЎНЯ 1999 г.**

## Закрываецца яшчэ адна беларуская школа на Астравеччыне

Прынята рашэнне райвыканкама аб закрыцці Завельцаўскай базавай беларускай школы. На першае верасня ў школу павінны прыйсці толькі 10 вучняў, таму немэтазгодна ўтрыманне. Сумна, вёскі нашы няўхільна старэюць. Але ў райвыканкаме чамусьці не падлічылі колькі маленькіх дзетак падрастае ў вёсках Завельцы і Соргаўцы. А дзесяць вучняў – гэта ж наша будучыня. І калі прынята рашэнне аб закрыцці Завельцаўскай школы, а вучням прапанавана Рымдзюнская школа да якой дабірацца 8 кіламетраў. У Рымдзюнах дзве школы – летувіская і расейская, ёсць інтэрнат, куды мяркуецца ўладкаваць вучняў. З першага класа адарваць ад бацькоў і аддаць на выхаванне "чужым людзям". Няхай і вельмі добрым і сумленным, паміма волі бацькоў. Рашэнне райвыканкама! А чаму не спыталі бацькоў, не правялі сход, апытанне? А кім вырастуць дзеці беларусаў, якім замест роднай школы прапанавалі чужамоўныя, ды яшчэ інтэрнат пры нармальных бацьках, так вырашылі дзяржаўныя ўстановы. Прыходзяць на думку словы Ф. Дастаеўскага: "Нішто не варта слязінкі дзіцяці". Вядома, лягчэй разбурыць, чым пабудаваць. Некалькі гадоў назад ліквідавалі бібліятэку ў вёсцы Завельцы, закрылі школу ў вёсцы Гіры, добры мураваны будынак, зараз там засталіся толькі сцены, усё разрабавана, нават столь і падлогу разабралі, такая ж сумная гісторыя і з будынкамі Нястанішняй васьмігадовай школы. Цяпер у непрыстойным выглядзе аддалі будынкі школы Нястанішняй парафіі. На базе Завельцаўскай школы можна зрабіць школу – сад, падрастае нямала дзетак. А лёс настаўнікаў?

Нельга эканоміць на дзецях, потым давядзецца, магчыма, даражэй заплаціць. Таму і старэюць вёскі, не паспела стаць на ногі дзіця, а яго адрываюць ад роднага гнязда.

*Леакадзія Мілаш, ліпень 1999 г.*



РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ
МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ

220005 г.Мінск, вул.Румянцава, 13
Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны.

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама паведамляе, што навучанне на беларускай мове вучняў 2 "В" класа СШ № 37 захаваецца і надалей.

Адміністрацыя школы не мае намеру пераводзіць яго на рускую мову навучання, аб чым паведамлена ўпраўленню адукацыі. Такой жа думкі прытрымліваецца і аддзел адукацыі адміністрацыі Цэнтральнага раёна г.Мінска.

Адказ бацькам 2 "В" класа накіраваны на імя Снітко Т.У. (№ 6-03/1273 ад 29.07.99г.).

Паведамляем таксама, што на адрас Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны быў накіраваны ліст з адказам наконт адкрыцця 10-га беларускамоўнага класа ў СШ № 180 (№ 6-03/1242 ад 23.07.99г).

В.а. начальніка ўпраўлення В.В.Ясенеў
Сак 2272501

## "Беларускай Маладзёжнай" - 5 год

Таварыства беларускай мовы віншуе рэдакцыю "Беларускай маладзёжнай" з 5-цігадовым юбілеем.

У 1994 г. маладыя беларусы атрымалі яшчэ адну газету, якая з першых дзён існавання ўзялася актыўна прапагандаваць на сваіх старонках ідэі свабоды і незалежнасці. "Беларуская маладзёжная" была, ёсць і застанецца газетай той часткі беларускай моладзі, што падзяляе ідэалы адраджэння беларускай мовы, культуры , дзяржаўнасці.

ТБМ зычыць плёну ўсім супрацоўнікам "БМ" на ніве папулярызацыі Беларушчыны ва ўсіх галінах маладзёжнай субкультуры.

Сакратарыят.

## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА

Да ўвагі бацькоў, што жадаюць даць сваім дзецям беларускамоўную адукацыю і выхаванне. Менская СШ №2 праводзіць набор дзяцей у беларускамоўныя класы (з 1-га па 9-ы). Выкладанне прадметаў праводзіцца па-беларуску самымі кваліфікаванымі выкладчыкамі. Пачынаючы з 1-га класа ў школе паглыблена вывучаюцца англійская, французская і польская мовы. Спадарожнікавае тэлебачанне на ўроках, спартыўныя, драматычныя, танцавальныя і фальклорныя гурткі - далёка не поўны пералік таго спектру паслуг і інтарэсаў, якія прапануе школа. СШ №2 мае дамову аб пабрацімстве з каледжамі французскіх гарадоў Лё-Пюі і Цьера. На Беларусі гэта адзіная школа, лепшыя вучні якой штогод накіроўваюцца на бясплатнае навучанне ў каледжы Францыі.

Дырэктар СШ №2 Сядзяка А. Г.

Адрас школы: Менск, 220085, пр.Ракасоўскага 93, тэл. 248-32-02, 248-18-04.

## Дазвол на пікет і мітынг атрыманы

12 жніўня ТБМ атрымала ад Менгарвыканкама дазвол на правядзенне 1 верасня пікета ў Міхайлаўскім скверы з 17 да 19 гадзін, а таксама на правядзенне 8 верасня мітынга з 17 да 19 гадзін на пляцоўцы перад ДК чыгуначнікаў у абарону беларускамоўнай адукацыі, за нацыянальны універсітэт і супраць перайменавання праспекта Францішка Скарыны.

На мітынгу плануецца выступленне вядомых беларускіх паэтаў, бардаў і музычных гуртоў.

Сакратарыят ТБМ заклікае ўсе рэгіянальныя арганізацыі ТБМ правесці 1 і 8 верасня аналагічныя пікеты і мітынгі, арганізаваць пры гэтым збор подпісаў.

## Нацыянальныя падручнікі

У навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава "Нацыянальныя падручнікі".

На ёй прадстаўлены падручнікі і метадычныя дапаможнікі для агульнаадукацыйных школ з беларускай, расейскай і польскай мовай навучання. Асаблівая ўвага ўдзелена вырашэнню комплексу задач, звязаных з рэфармаваннем сістэмы адукацыі. Акрамя падручнікаў, на выставе прадстаўлены карты па гісторыі і геаграфіі, наборы контурных карт.

Для дзяцей з асаблівасцямі разумовага развіцця, парушэннямі слыху, зроку падрыхтавана спецыяльная літаратура. Не забыты і сляпыя дзеці, ім надрукаваны падручнікі шрыфтам Брайля.

На здымках:
1. На выставе "Нацыянальныя падручнікі".
2. Падручнікі да новага года.

Фота Яўгена Казюлі. БЕЛТА






## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Але самы жахлівы след пакінуў рэжым у сферы духоўнай. Палітпалкоўнік быў вылучаны на ролю каменданта беларускай культуры. З неверагодным імпэтам ён узяўся за выкараненне ўсяго беларускага. Якія тут сумненні? У расейскай правінцыі ўсё павінна быць расейскім. Разбуралася гістарычная навука, пад новую ідэалогію перабудоўвалася энцыклапедыя, згортваліся планы беларускіх кнігавыданняў.

Вынішчалася беларускамоўная асвета. Нават дзеці вымушаны былі стаяць у пікетах , баронячы сваё права на адукацыю на роднай мове.

**Уладзімір Халіп.**
**Народная воля № 33 23.07.99г.**

*Свае намаганні прэзідэнт адразу скіраваў на падрыў сацыяльнай базы НВР (Нацыянальна-вызвольны рух. Рэдакцыя) і БНФ. Ён фактычна разагнаў беларускія школы, забараніў падручнікі сапраўднай беларускай гісторыі, правёў поўную русіфікацыю сістэмы адукацыі. Паралельна быў праведзены ганебны рэферэндум аб мове і сімволіцы.*

***"Зачыстка" Ул.Старчанка "Пагоня" 5.08.99г.***

У нашай царкве багаслужэнні і зараз вядуцца на беларускай мове. Некалькі гадоў таму назад у Нью-Ёрку было выдадзена Евангелле (Новы Запавет) па-беларуску. Пераклад гэтай святой кнігі зрабіў Васіль Сёмуха. Але моўнае пытанне патрэбна вырашаць. Для Беларускай царквы патрэбна рыхтаваць светароў з асяродка свядомых беларусаў, для якіх беларуская мова з'яўляецца сапраўды роднай.

**Патрыярх Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Юрый Рыжы-Рыжскі "Газета Слонімская"**

*На жаль, застаецца праблема навучання на роднай мове. Адмову ў фармаванні асобнага класа з навучаннем на беларускай мове, калі пададзена тры-чатыры заявы, спадар Гаўрон матываваў тым, што нібыта палажэнне аб сярэдняй школе дапускае арганізацыю класа толькі пры наяўнасці 25 вучняў.*

***Ніна Палуцкая, "Пагоня" 5.08.1999г.***




**Сп. Пашкевічу, нам. Кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта.**

Паважаны спадар Пашкевіч!

Цалкам падзяляем Вашыя думкі з выступлення на УІ з'ездзе ТБМ, надрукаванага ў апошнім нумары "Нашага слова", а менавіта:

1) Трэба моўную праблему вывесці з палітыкі;

2) Не трэба канфрантацый!

Згодная з Вамі, сп. Пашкевіч. Зразумела, асноўнае ў нашым жыцці – гэта палітыка. А ўсялякія г.зв. праблемы: мовы, экалогіі, сельскай гаспадаркі, навукі, культуры, прамысловасці, адукацыі і г.д. толькі перашкаджаюць нашай палітыцы, толькі адцягваюць ад яе грамадскую думку ды садзейнічаюць узнікненню канфрантацый на розных узроўнях.

І менавіта таму, каб нашым палітыкам хоць трохі лягчэй дыхалася ў сваёй напружанай працы, трэба спачатку неадкладна вывесці з палітыкі моўную праблему (як праблему, найвастрэйшую з усіх астатніх). І калі мы з поспехам гэта зробім, нам будзе ўжо ўдвая лягчэй паступова павыводзіць з палітыкі ўсе астатнія (глядзі вышэй) праблемы.

І нарэшце, нарэшце, часіна, калі ў грамадстве не будзе канфрантацый, калі мы будзем мець чыстую, незаплямленую праблемамі палітыку і чыстых, незабруджаных палітыкаў. Калі ўсе будзённыя праблемы, як нясуць, так і будуць несці на сваіх плячах "заплямленыя" да "забруджаныя" тутэйшыя ды з'ехаўшыеся людзі, якім баліць душа за Беларусь.

Прабачце, сп.Пашкевіч, але, на маю думку, чалавек Вашага ўзроўню павінен вельмі ўсведамляць кожнае слова сваіх прамоваў.

*З павагаю Ірына Шэршань, чытачка газеты "Наша Слова".*



№ 33(418) 18 ЖНІЎНЯ 1999 г. наша СЛОВА

*Погляд*

## А вершыкі ў віншаваннях часцей не “нашынскія”

У моду увайшлі сёння віншаванні праз газету родных і блізкіх з “круглымі” датамі нараджэння, залатымі і срэбнымі вяселлямі. Ад дзяцей, унукаў і праўнукаў, блізкіх сяброў, арганізацый і працоўных калектываў.

Што ж, гэта ўвогуле добрыя прыкметы выяўлення павагі да чалавека, кім бы ён ні быў. Звычайна прыходзіць “заказчык” у рэдакцыю райгазеты са сваім тэкстам: уступ – у прозе, а ніжэй: восем – дванаццаць вершаваных радкоў. Часцей – расейскамоўных. Кошт такога віншавання не высокі – 700-800 тысяч рублёў. Калі супрацоўніца рэдакцыі прапануе госцю беларускамоўны верш (яны ў яе пад рукой), той звычайна адказвае: “Нет, мы уже решили поздравить русскими стишками, сами школу русскую кончали”. І прымаюць яго вершыкі для друку на апошняй старонцы ў падборцы аб'яў.

Падчас наведвальнікі прыносяць “закручастыя” вершы, ад якіх юбіляру, пасля публікацыі, робіцца мусіць не па сабе. Вось як ад такога:

***Пусть волшебница жизнь***
***на алмазный поднос***
***Юбилейный кубок поставит,***
***В этот кубок здоровья и счастья плеснёт***
***И удачи пусть тоже добавит.***

А ніжэй – яшчэ чатыры радкі ў тым жа духу. І подпіс ўнізе:

***Муж, дзеци, унуки.***

Яшчэ б куды ні ішло агаласіць гэты “кубак” юбілейны ў сямейным коле, за сталом. А ў газету несці, на суд шматтысячнай аўдыторыі (тыраж раёнкі, якая выдаецца на беларускай мове – звыш 8 тысяч паасобнікаў) – нешта не ўкладваецца ў свядомасць, аддае выхвальной паказухай.

Яшчэ прыклад аналагічны. У чарговым нумары раёнкі дзеці, унукі і праўнукі віншуюць родных з нагоды іх залатога вяселля. Ім вяскоўцам ужо, вядома, за седзесят гадоў, вучыліся яны канешне ў беларускай сельскай школе, ды і самі дома, з суседзямі размаўлялі на роднай мове, магчыма і не зусім “чыстай”, а ўсё “свойскай”. А гарадскія нашчадкі, што збеглі з вёскі ў горад на “лягчэйшы” хлеб, ужо віншуюць іх расейскамоўнымі, складзенымі, хутчэй за ўсё, у сямейным коле, вершыкамі. Сумна і горка чытаць такое. Можна ўявіць сабе летувіса ці паляка, гараджаніна, які б саіх бацькоў-вяскоўцаў віншаваў з залатым вяселлем ці днём нараджэння нарасейскай ці, скажам, нямецкай мове? Ад яго адвярнуліся б суседзі і заёмыя, з ім перасталі б вітацца. А ў нас – хоць бы што! Быццам так і трэба.

Праўда, зрэдку наведвальнікі, хто яшчэ не адцураўся канчаткова роднай мовы, прыносяць і такія простыя, шчырыя і не мудрагелістыя віншаванні:

***Няхай счасцем свяціцца вочы,***
***І ўсмешка на вуснах гарыць,***
***І спакойнымі будуць ночы,***
***А дзень няхай песняй звініць.***

Між іншым, гадоў тры таму рэдакцыя набыла выдадзены ў Менску нейкім увішным прадпрымальнікам зборнік вершаваных віншаванняў старонак гэтак на сто з лішнім. Пачынаўся ён вядома, з расейскамоўных вершаў – яны ў ім займалі дзве трэці плошчы, а беларускія, прытым, далёка не лепшыя ва ўсіх адносінах, былі “рассеяны” па аднаму – два сярод шчыльных шэрагаў расейскамоўных. Наведвальнік, які прыходзіў у рэдакцыю, першнаперш звяртаў увагу на расейскія “стишки”. Супрацоўнікі газеты напаміналі “заказчыкам” і пра беларускамоўныя вершы – і па крыху яны траплялі на чацвёртую паласу. А потым нехта ўкраў той зборнік – і выбару не стала, людзі пачалі прыходзіць з дамарошчанымі “творамі”, напісанымі пад расейскі “капыл”. Яно і не дзіўна: працэнтаў дзевяноста гарадскіх і сельскіх жыхароў выпісваюць, як правіла, толькі расейскамоўныя газеты, а іх у сталіцы выходзіць нямала. Людзі здаўна прывыклі чытаць выключна дзяржаўныя газеты і часопісы – як і ў часы “развітога сацыялізму”. Сам быў не раз сведкам, калі на прапанову выпісаць незалежную газету, мужчына інтэлігентнага выгляду, крыва ўсміхнуўшыся, адказваў:

“Я уж привык до “Советской Белоруссии”, от неё не собираюсь отказываться”. І такіх – шмат!

Ці не таму на нашых могілках рэдка дзе ўбачыш на надмагільным помніку эпітафапію, напісаную па-беларуску. На слуцкіх гарадскіх, што каля вёскі Селішча, за апошнія дванаццаць гадоў, з часу іх адкрыцця, спачатку не адна тысяча чалавек, нарэшце з'явіўся першы помнік з надпісам па-беларуску. Гады два таму, Але і па сённяшні дзень ніхто не адважыўся ўзяць прыклад з таго сваяка, што рашыў ушанаваць памяць блізкага чалавека на матчынай мове. Я сам у 70-я гады, калі працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты і пісаў матэрыялы па-беларуску, размаўляць на матчынай мове не ўмеў – адвык за сем гадоў службы на флоце ў Кранштаце сярод расейскамоўных матросаў, ды і пазней, дэмабілізаваўшыся, адчуваў, што на загаварыўшага пабеларуску чалавека абываццелі глядзелі, як на марсіяніна, ён мог пачуць за спіной гэткі гадзенькі шэпт: “Наверно, нацдэм появился”. Сам быў сведкам такіх адносін да вядомага на Случчыне настаўніка, аўтара пяці кніг па гісторыі нашай культурнай спадчыны, Рыгора Родчанкі. У тыя змрочныя гады таталітарызму ён бадай што адзін сярод соцен педагогаў горада размаўляў на чыстай беларускай мове, вёў на ёй урокі ў вячэрняй школе. Улады не любілі яго, шальмавалі.

Дык вось: пасля смерці ў 1962 годзе маёй бабулі Юлі, якая пры жыцці ведала мноства розных абрадавых народных песень, размаўляла з вяскоўцамі на беларускай мове, я на помніку над яе магілкай прозвішча, імя , імя па бацьку, дату нараджэння і смерці нябожчыцы загадаў майстру, што рабіў яго, напісаць пабеларуску. А гэта выклікала нездавальненне маіх блізкіх сваякоў. Як гэта ты асмеліўся пісаць не так, як усе!

Перакананы: тыя людзі, што прыносяць у рэдакцыю вершаваныя віншаванні на расейскай мове, не адступаюцца ад яе і пасля таго, як іх родныя і блізкія па старасці ці хваробе (што непазбежна кожнаму) адыйдуць у іншы свет і трэба будзе ставіць ім помнікі. Зробішь гэта з абавязковым скажэннем прозвішчаў пад расейскай ці ўкраінскі “капыл”, з канчаткам на “о”: “Мурашко”, “Забелло”, “Алешко”, “Березко”, “Кухаренко”, “Петренко”, хоць усе яны, як правіла, беларусы. За ўсім гэтым праглядваецца цяжкая хвароба этнасу – адміранне нацыянальнай самасвядомасці, гонару за сваю краіну. Пакуль незалежную.

Але вернемся да віншавальных вершаў, што з нумара ў нумар друкуюцца на старонках раённых газет. Тут вуснымі ўгаворамі і перакананнямі павярнуцца да сваіх моўных “каранёў” нічога не зробіш. Выйсце я бачу такое: добра было б, каб не нейкі лоўкі камерсант выдаў зборнік віншавальных вершыкаў падчас не лепшага гарту, а нашы слынныя паэты падгадзіліся зрабіць гэта і выдаць некалькі соцен брашураў з вершамі-віншаваннямі на беларускай мове. Цёплымі, пранікнёнымі, лірычнымі, каб яны, як кажуць, дахадзілі да сэрца.

***Міхаць Тычына, г.Слуцк.***

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічныхнавук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

## “З чужой моўнай практыкі...”

Працяг

***Нататнік і кандуіт.*** Сярод настаўнікаў можна пачуць яшчэ і сёння даўняе слова ***кандуіт***. Яно прыйшло з французскае мовы (відаць, ад гувернантак) і выкарыстоўвалася ў дасавецкай школе з значэннем ***журнал, у які заносіліся звесткі аб паводзінах вучняў*** (ТСБМ. Т.2 Мн., 1978, С.613). Аднак на месцы яго стала ўжывацца і новае слова ( з шырэйшым значэньнем ***запісная кніжка***). ***Нататнік*** – утварэнне ад ***нататка (натат(ка)–нік)***. Слова ***нататка*** зафіксаваў ТСБМ (Т.3.Мн.,1979. С.323): “Нататка, ж. Кароткі запіс аб чым-небудзь. Люба дастала запісную кніжку і спешна пачала чытаць карандашныя нататкі. Гартны”. Нават гэты тэкст Цішкі Гартнага дазваляе меркаваць пра магчымае ўтварэнне слова ***нататнік*** (на месцы апісальнай назвы ***запісная кніжка***) ад утваральнага назоўніка ***нататка***.

У сучасным перыядычным друку яно ўжо выкарыстоўваецца. Напрыклад: “Ужо даўно да іх не прыходзіў, але ж тэлефоны і адрасы ў сямейным нататніку захаваліся. Алег Ждан. Час ідзе” (Полымя. 1998. №7. С.17).

Пра выразнасць гэтага адмысловага слова пісаў у адным з ліпеньскіх нумароў “Нашага слова” знаны культуролаг і пісьменнік, добры знаўца роднага слова Уладзімір Содаль.

Трэба думаць, што гэтае выразнае структураю і семантыкаю слова ***нататнік*** замацуецца і ў літаратурным слоўніку.

***Падслухоўванне і подслух.*** Ад дзеяслова ***падслухаць/падслухоўваць*** утварыліся – рознымі спосабамі – два назоўнікі: ***падслухоўванне*** і ***подслух*** (ад ***падслухаць***, нульсуфіксавы спосаб). Нульсуфіксаваныя ўтварэнні як больш эканомныя (кароткія) словы набылі ў наш час досыць актыўнае выкарыстанне. Нават у знаных майстроў слова. Так, у Максіма Танка чытаем: “Чамусьці перастала даходзіць беластоцкая “Ніва”. Затое спраўна працуе тэлефонны ***подслух***” (Дзённікі. Полымя. 1997.№9.С.89). Гэтае слова змяшчае і двухтомавы “Беларуска-рускі слоўнік” (Т. 2. Мн., 1989. С.234), але толькі як дыялектнае: “Подслух,-ху, м. обл. подслушивание”. Ну як тут не здзіўляцца такой “мудрай” кваліфікацыі гэтага натуральнага слова! Але ж яно далёкае ад ***подслушивание***, таму і такая яму “саўковая” адзнака.

Падае гэтае слова і “Тлумачальны слоўнік” (Т. 4. Мн.,1980.С.285), але зноў-такі з той самай дзіўнай паметай: “Подслух,-у м.Абл.Падслухванне”. Тут падаецца прыклад з твора класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа: “Цімоха агортвае страх: А што, калі стане вядома, Як потайкам ён па начах Выходзіць на подслух з дому?”.

Вось што адтрымліваецца ў складальнікаў гэтых слоўнікаў? Іх не бянтэжыла пры такім выраку слову ***подслух*** нават тое, што ім карысталіся народныя пісьменнікі, класікі нашай літаратуры. Здзіўляе, як не аднеслі яны да дыялектных аднаструктурныя ***подкуп, подпіс, подсвіст, подступ, подсціл, позех, покліч*** ды безліч аднамадэльных утварэнняў, якія бачым у згаданых слоўніках.

Такім чынам, слова ***подслух*** мае поўнае права на агульнамоўнае выкарыстанне і месца ў літаратурным слоўніку.

***Прэзентацыя і яго аднакаранёвікі.*** Гэтае слова выкарыстоўвалася ў беларускай мове ўжо ў старадаўнія часы. Яго падаюць М.Прыгодзіч і Г.Цівановa ў “Старабеларускім лексіконе. Падручны перакладны слоўнік” (Мн.,1997): “Прэзентацыя –прадстаўленне”. Нашыя акадэмічныя слоўнікі фіксуюць гэтае слова як застарэлае і як фінансавы тэрмін: “Прэзентацыя, ж. Падача, прадстаўлення для аплаты грашовага дакумента. Прэзентацыя вэксаля” (ТСБМ. Т.4.Мн., 1980. С.505). Як размоўныя і застарэлыя падаюцца ў “Тлумачальным слоўніку” і словы ***прэзент, прэзентаваць, прэзентаванне***. На с.505 чытаем: “Прэзент. м. Разм.уст.Падарунак, гасцінец. Прэзентаваць, зак. І незак. Разм.уст. Паднесці (падносіць) у якасці падарунка; падарваць”; Прэзентаванне, -я н.Разм.устр. Дзеянне паводле знач. дзеясл. прэзентаваць”.

Аднак сучасная маўленчая практыка не пацвярджае высноваў гэтага акадэмічнага даведніка. Згаданыя словы выкарыстоўваюцца як агульнамоўныя адзінкі актыўнага слоўніка. Вось некаторыя прыклады: “У вёсцы Бялынкавічы, што на Касцюкоўшчыне, адбылася прэзентацыя абраду “Выпяканне вясельнага караваю ў доме нявесты” (ЛіМ.21 жніўня 1998 г.С.3). “Белвідэацэнтр прэзентаваў у эфіры сваю новую работу – сапраўдны сюрпрыз не толькі для юбіляра, але і для звычайных гледачоў” (Тамсама.С.2). Чарнобыль не ведае межаў. У гэтым яшчэ раз можна было ўпэўніцца ў час прэзентацыі ў Нацыянальным прэсцэнтры ў Мінску атласа, які знаёміць з забруджаннем цэзіем Еўропы пасля Чарнобыльскай катастрофы” (Тамсама.С.4). “Прэзентацыя ўнікальнай кнігі” (Наша слова.27 траўня 1998г. С.1.).

“Русско-белорусский словарь” 1993 года (Т.2. С.751) фіксуе: “Презентант фин. Презентант, м.. Презентация в разн.знач. прэзентацыя”. Аднак слова ***прэзентаваць*** і тут падаецца з паметаю “разг.уст. “Тлумачальны слоўнік” 1996 года чамусьці зусім не падае слова ***прэзентацыя***, хоць бачым тут ***прэзент*** і ***прэзентаваць***, але з той жа дзіўнай іх стылёвай кваліфікацыяй: “Прэзент, м.(устарэлае, цяпер размоўнае і жартаўлівае). Падарунак. Прыміце мой прэзент. Прэзентаваць, зак. і незак. (уст.,цяпер разм. жарт.). Даць (даваць) у прэзент, падарваць (даравацъ). Я вам прэзентную сваю кнігу” (с.523).

Вось як пярэчыць самі сабе слоўнікі. У якой нязгодзе яны з сучаснаю маўленчаю практыкаю!

Словы ***прэзентаваць, прэзентацыя, прэзентаванне, прэзентаваць, прэзент*** функцыянуюць у сучаснай беларускай мове, як агульнамоўныя лексічныя адзінкі. І надта актыўна выкарыстоўваюцца ў друку.

***Парэшткі, рэшткі і астанкі.*** “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” (Т.1.Мн.,1977.С.287) падае: “Астанкі,-аў; адз.няма. Цела нябожчыка; прах” У перыядычным друку бачым з тым самым значэннем словы ***рэшткі і парэшткі***. “Камісія створана дзеля рэалізацыі ідэі перапахавання парэшткаў Максіма Багдановіча” (ЛіМ.20.02.1998). Слова ***рэшткі*** падаецца ў слоўніках з наступнай дэфініцыяй. “Тое, што захавалася, уцалела ад таго, што раней існавала” (ТСБМ. С.578). Слова ***парэшткі***, відаць, узнікла дзеля размежавання праху (цела нябожчыка) і рэштках (прадметаў ды пад.).

***Кампутар і камп'ютэр.*** Абодва гэтыя словы выкарыстоўваюцца ў беларускім друку і з'яўляюцца вынікам рознай рэалізацыі англ. ***Komputer***: 1) транслітарацыі (палітарнай перадачы) і 2) транскрыпцыі (вымаўленчае формы). Форма, якая ўлічвае вымаўленне англійскага, — ***камп'ютэр*** трапіла праз расейскую мову ***(компьютер)***. Яна пярэчыць фанетычнаму закону акання і цяжкая для вымаўлення (спалучэнне зычных ***мпј***). Форма ***кампутар*** – адаптаваная беларускаю моваю, падпарадкоўваецца і беларускаму правапісу (ненаціскныя ***о,э*** пераходзяць у ***а***). Так што ўсе перавагі за формаю ***кампутар*** і вытворнымі ***кампутарны, кампутарызацыя*** ды пад. Параўн. ***Клуб*** і анг. ***Klub***, якое па-англійску вымаўляецца [klab].

*(Працяг у наступным нумары)*



# Іслам, глабальныя праблемы цывілізацыі і ... ТБМ

У чацвер 29 ліпеня ў Менску адбылася У міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Іслам і глабальныя праблемы цывілізацыі".

Гэта мерапрыемства было прысвечана 400-годдзю мячэці і мусульмаскай грамады Менска.

Трэба адзначыць, што імпрэза была вельмі прадстаўнічай. У канферэнцыі прынялі ўдзел такія асобы як намеснік генеральнага сакратара Сусветнай арганізацыі "Ісламская місія" Махмуд Рых, пасол рэспублікі Турцыя ў РБ Фатьма Шуле Сойсал, прадстаўнік міжнароднай грамадскай арганізацыі "Ар-Рашад" Аднан Абдульджабар, муфтій мусульман Беларусі Ісмаіл Александровіч, прэзідэнт Беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб" Абу-Бекір Шабановіч, старшыня мусульманскай грамады Менска Ібрагім Канапацкі, а таксама іншыя прадстаўнікі мусульманскага духавенства і навукоўцы.

Выступіў таксама на гэтай канферэнцыі з прывітальным словам і старшыня ТБМ сп.Трусаў. Ён адзначыў, што родная мова беларускіх татар – беларуская і яны актыўныя сябры Таварыства.

Першыя кантакты продкаў беларусаў з арабскім светам адбыліся ў 10 ст., тады старажытны Менск узняўся на шляху з вараг у грэкі. У раёне Менскага гарадзішча знойдзены скарбы дырхемаў-арабскіх срэбных манет.

600 год назад па запрашэнні князя Вітаўта татары пасяліліся на Беларусі. У 16 ст. яны напісалі свае святыя пісанні арабскімі літарамі на беларускай мове і тым самым захавалі для нас сведчанне, што тады ў нашай мове існавалі гукі дз і дж.

У 20 ст. многія татары зрабілі ўклад у беларускую культуру і гісторыю.

Напрыканцы выступлення старшыня Таварыства пажадаў нашым татарам далейшага развіцця іх нацыянальных традыцый і сумеснай карыснай працы.

У перапынку я ўзяў інтэрвію ў старшыні мусульманскай грамады г.Менска Ібрагіма Канапацкага.

***-- Якія мэты гэтай канферэнцыі?***

-- Гэта ўжо 5-я па ліку, яна прысвечанга 400-годдзю Менскай мячэці. Такія канферэнцыі адбываюцца штогод, мінулая была прысвечана Ісламу.

***-- Як ідзе працэс адраджэння беларускіх татар, якія праблемы?***

-- Складана, многае страчана. У канцы 80-х была толькі адна мячэць у Іўі. Зараз пабудавана ў Смілавічах, адноўленыя ў Навагрудку, Слоніме, Відзах. Наша мэта адбудаваць мячэць у вёсцы Лоўчыцы, самую старажытную драўляную мячэць ў Еўропе.

***-- Якія друкаваныя выданні ёсць зараз у беларускіх татараў?***

-- Выходзіць часопіс "Байрам" на беларускай мове. Выйшла ўжо 30 нумароў. Зараз змакетаваныя яшчэ два нумары, але няма сродкаў, каб іх выдаць. Нажаль галоўны рэдактар часопіса Якуб Адамавіч Якубоўскі памёр, зараз я выконваю абавязкі галоўнага рэдактара.

Наша галоўная задача культурнае і рэлігійнае абуджэнне свядомасці татар. Пад час чарговага Сакратарыяту ТБМ, было вырашана прапанаваць рэдакцыі "Байрама" старонку ў "НС" раз на месяц дзе друкаваліся б лепшыя матэрыялы часопіса беларускіх татар.

*Алесь Гурыновіч.*

## ГАРАДЗЕНСКІ АБЛВЫКАНКАМ АДМОВІЎ У РЭГІСТРАЦЫІ АБЛАСНОМУ АБ'ЯДНАННЮ "НАШАЯ ПАМЯЦЬ"

Горадня, 11 жніўня. Упраўленне юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкама адмовіла ў рэгістрацыі абласному грамадскаму аб'яднанню імя братоў Кастуся і Віктара Каліноўскіх "Нашая памяць" з юрыдычным адрасам у гарадскім пасёлку Свіслач. Усакавіку і траўні прымаліся адпаведныя рашэнні аб адтэрміноўцы рэгістрацыі гэтай грамадскай арганізацыі. З таго часу ініцыятары ўлічылі ўсе заўвагі, у статут унеслі змены, як таго патрабуе Закон "Аб грамадскіх арганізацыях".

Як паведаміў кіраўнік Савета аб'яднання Віктар Трышчэнні, ён звяртаўся па тлумачэнні, аднак замест адказу чыноўнікі, па сутнасці, спасылаліся на Міністэрства юстыцыі краіны. Актывіст грамадскага руху перакананы, што "вертыкаль" гарпасёлка зрабіла ўсё магчымае, каб у Свіслачы не было "апазіцыянераў". Тым не менш, штогод увосені дэмакратычныя сілы рэгіёна збіраюцца на мясцовых могілках, каб адзначыць чарговыя ўгодкі з дня смерці брата Кастуся Каліноўскага Віктара. Не стане выключэннем і гэты год.

Даведка БелаПАН: Каліноўскі Віктар Сямёнавіч нарадзіўся 21 красавіка 1833 года ў вёсцы Мастаўляны Беластоцкай воласці. Памёр 6 лістапада 1862 года ў фальварку Якушоўка Ваўкавыскага ўезда. Удзельнік рэвалюцыйнага руху 1860-х гадоў. Брат Кастуся Каліноўскага. Сябра Віленскай археаграфічнай камісіі. Вывучаў гісторыю Вялікага княства Літоўскага па старажытных летапісах. Пахаваны ў Свіслачы.

*Антон ЛАБОВІЧ, БелаПАН.*

## 80-я ўгодкі Віленскай Беларускай Гімназіі і 80-я ўгодкі смерці закладчыка яе Івана Луцкевіча

Як мы ўжо на пачатку гэтага года пісалі, сёлета прыпадаюць 80-я ўгодкі Віленскай Беларускай Гімназіі. Сёлета 20-га жніўня спаўняюцца і 80-я ўгодкі смерці Івана Луцкевіча, фактычнага яе закладчыка, заснавальніка і стваральніка Беларускага Музею імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Імя Івана Луцкевіча сталася сынонімам ахвярнасці і адданасці справе, палітычнага розуму і няўтомнай дзейнасці ў палітычным, грамадскім і культурным кірунку.

Памёр Іван Луцкевіч у 1919 годзе. У студзені гэтага-ж года, дагараючы на сухоты, паспеў яшчэ на ўрачыстым адкрыцці Віленскай Беларускай Гімназіі сказаць палымяную патрыятычную прамову. Тады накіравалі яго лячыцца ў Закапанае, дзе 20 жніўня памёр і там быў пахаваны.

7 верасня, 1969 года Згуртаванне Беларусаў Канады арганізавала ў зале БР-ГЦ акадэмію на 50-я ўгодкі смерці Івана і 30-я – Антона Луцкевічаў. Браты Луцкевічы былі закладчыкамі і, можна сказаць, душой газеты "Наша Ніва".

Пасля літургіі, у якую была ўлучана малітва за супакой душаў Івана і Антона Луцкевічаў, адбылася ў іхнюю памяць урачыстая акадэмія. Адчыніў яе старшыня ЗБК Мікола Ганько ды перадаў голас дакладчыку др.Вінцэнту Жук-Грышкевічу.

Міколу Ганька пахавалі мы сёлета, Вінцэнта Жук-Грышкевіча, гадунца братоў Луцкевічаў, дзесяць год таму.

"Мы не памрэм, хоць шмат магілаў
на шляху нашым упоперак лягло."
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Бэры – Таронта ліпень, 1999-08-13*
*Др. Раіса Жук-Грышкевіч. Старшыня.*

# У гасцях у "Засцянковай хатцы"

У гасцях у "Засцянковай хатцы" пабывалі 22-23 мая 1999 г. самадзейныя артысты мастацкіх калектываў з Вільні "Вярдзяне" і "Гервяты".

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны Віленскага Краю ладзіла на базе гістарычна-этнаграфічнага музея "Засцянковая хатка" ў Вашунаве Докшыцкага р-на Віцебскай вобласці чарговую імпрэзу на тэму: "Каб помнілі і шанавалі Бога, сям'ю, мову, Бацькаўшчыну", прысвечаную Году Бога-Айца, Міжнароднаму Году пажылых людзей і нашым продкам.

Усё пачалося з набажэнства ў мясцовым Параф'янаўскім касцёле, дзе імшу святую праводзіў на беларускай мове ксёндз а.Тадэвуш. На заканчэнні месы самадзейныя артысты ў касцёле выканалі рэлігійную песню-гімн у гонар Дзевы Марыі, імя якой носіць гэты Параф'янаўскі касцёл. Гэта было цудоўна!

Потым гасцей сустракала "Засцянковая хатка". Мясцовая дзятва ў беларускіх нацыянальных строях і жыхары навакольных вёсак паднасілі на ручніках беларускі каравай.

Госці частавалі людзей слодычамі з віленскіх цукерняў.

Прывітальныя словы і ўсе з дарогі пайшлі абедаць за сталы, якія былі накрыты ў садку ля "Засцянковай хаткі".

Гучыць музыка. Песні – беларускія і летувіскія, польскія, расейскія і ўкраінскія. Усе ідуць у скокі.

Праз некаторы час прыязджае ксёндз Тадэвуш, які асвячае хату і капліцу пры ёй.

Свята працягваецца. Усе ідуць да сажалкі, дзе ўспыхвае агонь. Ля вогнішча песні, танцы, музыка... Тут п'юць гарбату з самавара, але і моцныя напіткі. Гулялі ўсе да позняга вечара. Потым пайшлі адпачываць групамі да суседзяў. Вось тут госці ўбачылі беларускую гасціннасць. Частавалі гасцей гарэлачкай мясцовай (вясковай) вытворчасці, кілбаскай і ўсякімі хатнімі прысмакамі. Зноў песні, музыка і так да поўначы.

Назаўтра раніцай сняданне, развітанні і ў добрую дарогу. Гучыць знаёмая мелодыя "Бывайце здаровы...".

Шыкарны аўтобус бярэ кірунак на возера Нарач. На шляху да Вільні ўсе пабывалі ў некалькіх беларускіх крамах, купілі беларускія гасцінцы.

І вот прыпынак – возера Нарач, гэта самае вялікае і прыгожае возера Беларусі. Тут ля самага берага, недалёка ад помніка воінам і партызанам, там, дзе кожны год у першую нядзелю ліпеня праходзіць Дзень песні мы зрабілі свой пік-нік. Палуднявалі, спявалі і танчылі. Любаваліся прыгажосцю гэтых мясцін.

І зноў у дарогу. Вось і беларуска-летувіская мяжа. Наш аўтобус прапусцілі без перашкод і беларускія, і летувіскія памежныя службы. Мы ўдзячныя ім за гэта. У сем гадзін вечара мы ўжо дома, у Вільні. Уражанняў ад паездкі многа. Мы прывезлі ў Беларусь радасць, а атрымалі цяпло, гасціннасць і шчырасць людзей.

Добрае ўпершыню зрабіла і "Засцянковая хатка", дзе ёсць між іншым і аддзел летувіскай культуры.

Тут моцны асяродак асветы і культуры ТБМ імя Ф.Скарыны.

*Юры Гіль. г. Вільня.*

# Ракуцёўшчына – 99

Свята паэзіі "Ракуцёўшчына-99" прайшло на радзіме вялікага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Удзельнікі свята на Ракуцёўшчыне з цікавасцю азнаёміліся з экспанатамі музея-сядзібы, паслухалі выступленні паэтаў, бардаў, самадзейных калектываў з Менска і Маладзечанскага раёна. На здымках:

1. Выступае паэт Наум Гальперовіч. 2.3. У музеі-сядзібе Максіма Багдановіча ў вёсцы Ракуцёўшчына.

Фота Аляксандра Талочкі. БЕЛТА.











# Моўныя пошукі

Хацелася б адгукнуцца на ліст спадара Яўгена Саляйчука з Пінска, выдрукаваны ў "Нашым слове" 10 сакавіка. У сваім лісце спадар Саляйчук падзяліўся ўласным досведам азначэння тэхнічных паняткаў па-беларуску, а таксама папрасіў рады чытачоў "Нашага слова" ў вызначэнні беларускага аналага расейскаму слоўцу ***общаться***...

1. Найперш варта адзначыць, што Яўген Саляйчук цалкам слушна вызначыў слова ***аліва*** адпаведнікам тэрміну ***тэхнічнае масла***. Пацвярджэнне слушнасці высноваў спадара Саляйчука можна адшукаць у беларускіх слоўніках. Да прыкладу, у Беларуска-расейскім (Вялікалітоўскага-расейскім) слоўніку Я.Станкевіча, выдадзеным у Нью-Ёрку, а таксама – у шасцітомавым тлумачальным слоўніку беларускай мовы выдадзеным у Менску. Такім чынам, тэхнічнае (змазкавае, машыннае) масла – гэта па-просту ***аліва***. Адсюль, ***масляны (фільтар) – аліўны (фільтар)***.

2. На маю думку, расейскаму ***общаться*** найлепш адпавядае ў беларускай мове – ***камунікаваць***. Адсюль, ***общение – камунікаванне***, а суб'ект ***камунікавання – камунікант*** (па расейску – ***тот, кто общается, общающий-ся***). Мае добрыя знаёмыя ў значэнні ***общаться*** карыстаюцца таксама словамі ***кантактаваць, стасавацца, узаеміць (адсюль, общение кантактаваньне, стасункі, узаеміны)***, а таксама словам ***кампаняваць*** (ад ***кампанія***). Чацвёртае выданне трохтомавага "Расейска-беларускага слоўніка", падрыхтаванага Інстытутам мовазнаўства, перакладае слова ***общаться***, як: 1. ***Мець зносіны***; 2. ***Вадзіцца***. На мой густ, прапанаваныя ў слоўніку варыянты менш "гнуткія" ў параўнанні з тым жа ***камунікаваць***. Але кожны чытач "Нашага слова" вольны самастойна выбраць найбольш упадабаны адпаведнік расейскаму ***общаться***. З часам маўленчая практыка пакажа, які варыянт больш жыццяздольны.

3. Летась, пры напісанні дыпломнай работы (тэмат работы эканамічны) я таксама сутыкнуўся з пэўнымі тэрміналагічнымі праблемамі...

4. Так, эканамічны тэрмін ***дочернее общество*** (філіял,падкантрольны галоўнай акцыянрнай кампаніі) па слоўніках перакладаецца з расейскай калькавана – ***даччынае таварыства***. Мне ўдалося падабраць некалькаваны беларускі адпаведнік, які, здаецца, валодае неабходнай сэнсавай дакладнасцю і празрыстасцю. Тэрмін ***дочернее общество*** я пераклаў, як ***атожылкавае таварыства*** (ад ***атожылак – парастак, адгаліпаванне***).

Не надта хараша гучаць па-беларуску і слоўнікавыя тэрміны: ***у параўнаньні з бягучым годам, на бягучым рахунку, крэдытаваньне ў бягучую дзейнасць.*** Лішне казаць, што суфікс ***–уч-*** неўласцівы беларускай мове. Пазбегнуць чужароднай ***"бягучасці"***, на маю думку, можна, пашырыўшы значэнне словаў ***наяўны*** і ***асабовы***. Тады атрымаем: замест ***у параўнаньні з бягучым годам – у параўнаньні з наяўным годам*** (ці ***... з гэтым годам***), замест ***на бягучым рахунку*** – на ***асабовым рахунку***, замест ***крэдытаванне ў бягучую дзейнасць – крэдытаванне ў наяўную дзейнасць*** (альбо – ***крэдытаванне ў статутную дзейнасць)***.

Вось такія мае накідныя прапановы па дасканаленні пэўных беларускіх эканамічных тэрмінаў.

Хацелася б пачуць меркаванне пра іх адмыслоўцаў – філолагаў і проста чытачоў "Нашага слова".

***Зміцер Цехановіч, Менск.***

# Чыё ў нас тэлебачанне?

Мне б хацелася паразважаць пра тое, як з экранаў тэлевізараў гучыць беларуская мова.

Калі глядзець тэлебачанне ў Менскай вобласці, то набярэцца ажно дзевяць каналаў на мятровых і дэцыметровых хвалях, але не беларускіх. У сталіцы Беларусі Менску іх значна больш. Праўда адзін беларускі канал ёсць, але перадач тых па-беларуску няшмат. На тэрыторыі нашай краіны вяшчаюць толькі расейскамоўныя каналы.

ГРТ ахоплівае сто адсоткаў тэрыторыі Беларусі, РТР таксама каля ста адсоткаў. На дэцыметровых хвалях працуюць "НТБ" і "Культура". На восьмым канале – 8 канал з Менску. Ды толькі гэты камерцыйны канал па-беларуску дае "Вечарніцу", а мультфільм для дзяцей – па расейску. Што там толькі можна ўбачыць? Баевікі, хрысціянскія праграмы, музыка – па-расейску. Рэклама – па-расейску, праграма перадач – па-расейску. Для каго ён працуе? Для беларусаў? Не.

На чацвёртым канале працуе Магілёўскае тэлебачанне. Амаль усе перадачы ідуць па-расейску.

Але асобна хочацца вылучыць, а дакладней зрабіць выключэнне для 12-га канала з горада Барысава. Няўжо ў Барысаве нікога не хвалюе, што там жывуць беларусы, а не расейцы ды палякі. Я не хачу нікога пакрыўдзіць. Хай жывуць сабе. Але хай і паважаюць мову таго народа, дзе жывуць. Няхай паважаюць нашу культуру і нашы звычаі.

Вось як вяшчае Барысаўскі 12 канал. Зранку да 12 гадзін дня ТБ-6 Масква. З 12 да 17 гадзін праграма з Польшчы (вядома на польскай мове). Затым зноў уключаюць ТБ-6 (на расейскай мове). З 19 гадзін і да 23 гадзін расейскамоўныя праграмы: "Віншаванні", "Навіны", "Надвор'е", "Перадай прывітанне". Дык хоць бы прагучала беларуская песня. Не. Ніводнага разу за тры гады беларускае слова не гучала. Беларускіх песень не было чутно. Затое спяваюць Надзея Кадышава, Яраслаў Еўдакімаў, Наталі па некалькі разоў падчас праграмы. Напрыканцы гэтага 12-ага канала зноў уключаюць ТБ-6 да сканчэння праграмы.

Яшчэ слова пра БТ. Спадар Іван Пашкевіч запэўніў, што неўзабаве будзе ўведзены другі беларускамоўны канал. Прайшло ўжо чатыры месяцы, а яго як не было, так і няма. Хацелася б, каб беларускае тэлебачанне было беларускім, каб мы глядзелі яго, як глядзяць ГРТ, НТБ на Беларусі. Каб і рэклама была беларускамоўнай, каб гучалі часцей беларускія песні, каб Зімоўскі, Каця Дзямчук, Яўген Крыжаноўскі ды іншыя па-беларуску размаўлялі з беларусамі. На Украіне, Летуве, Латвіі. Польшчы па чатыры асноўныя каналы. А ў беларусаў толькі адзін. Хочацца верыць, што настане дзень, і ў нас будзе столькі ж, колькі ў суседзяў.

***З прывітанием Леанід Красоўскі, сябра ТБМ, Менская вобласць, Бярэзінскі раён, вёска Мікулічы.***

# Вынікі перарэгістрацыі арганізацый і суполак Т Б М імя Францішка Скарыны

| №№ п/п | Назва арганізацыі | Кіраўнік арганізацыі | Тэлефоны | Паштовы адрас | Дата перарэг-цыі | Колькасць суполак | Колькасць сяброў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Берасцейская вобласць** | | | | | 12 | 276 |
| 1. | Берасцейская гарадская арганізацыя | Мельнікава Зоя Пятроўна | 45-73-76 | 224011,г.Брэст, вул.Луцкая,18-124 | 14.05.99 | 5 (2) | 26 (12) |
| | Берасцейскія суполкі пры БЗБС "Бацькаўшчына" і "Вежа" | Яцкевіч Сяргей Анатольевіч | (01622) х.6-25-14 с.3-23-30 | 224005,г.Брэст, вул.Пушкінская, 1-22 | 14.05.99 | (2) | (12) |
| 2. | Баранавіцкая гарадская арганізацыя | Сырыца В.А. | | 225320, Баранавічы, вул.Рэпіна, 64-19 | 14.05.99 | 4 | 42 |
| 3. | Бярозаўская раённая арганізацыя | Русецкі Сяргей | с.2-26-07 х.4-26-44 | 225210, г.Бяроза Берасцейскай вобл. вул.Леніна,110а –86 | 14.05.99 | 3 (2) | 9 (6) |
| | Белаазёрская суполка | Валошчык Мікола | (01643) х.2-05-92 | 225215, г.Белаазёрск, Бярозаўскага р-на Берасцейскай вобласці, пр.Міра, 4-3 | 14.05.99 | (1) | (3) |
| | Малечска-Першамайская суполка | | | | | (1) | (3) |
| 4. | Кобрынская суполка | Дрык Ніна Сцяпанаўна | 49-208 | 225860, г.Кобрын, вул.Савецкая, 94,СШ №1 | 27.06.99 | 1 | 4 |
| 5. | Пінская гарадская арганізацыя | Саіч Валеры Уладзіміравіч | х.32-59-98 | 225710, г.Пінск,вул.Дняпроўскай Флатыліі, 53-21. Сядзіба: вул.Іркуцка-пінскай дывізіі, 42, метадыч.кабінет | 14.05.99 | 3(1) | 41(25) |
| | Пінская суполка "Струмень" | Неўдах А., каардынатар – Шатохін Яўген Сяргеевіч | (01653)х.2-69-44 | г.Пінск, вул.Кірава, 30-10 | 14.05.99 | 1 | 25 |
| 6. | Пружанская раённая арганізацыя | Здановіч Іван Юльянавіч | х.2-23-23 | 225140, г.Пружаны, вул.Багдановіча, 26, СШ №2 | 14.05.99 | 7 | 68 |
| 7. | Столінская раённая арганізацыя | Вабішчэвіч Віктар Васільевіч | 27-3-77 | 225540, г.Давыд-Гарадок,вул.Калініна, 16-3 | 27.06.99 | 4 | 61 |
| | **2. Віцебская вобласць** | | | | | | |
| 1. | Віцебская абласная арганізацыя | Навумчык Іосіф Адамавіч | х.36-90-60 | 210026, г.Віцебск, вул.урыцкага, 10-7 | 14.05.99 | 61 | 607 |
| 2. | Віцебская гарадская арганізацыя | Арлоў Валянцін Мікалаевіч | х.25-95-47 | 210035, Віцебск, Маскоўскі тракт, 74-5-77 | 27.06.99 | 13 | 126 |
| 3. | Віцебская раённая арганізацыя | Нікіціна Людміла Канст. | х.98-13-99 | 211307, в.Заронава, Віцебскій р-н, Віц. вобл. | 14.05.99 | 3 | 20 |
| 4. | Аршанская раённая арганізацыя | Нагорны Юры Аляксанд-віч | с.5-21-33 х.5-26-93 | 211011, г.Барань, вул.Зарэчная, 6-86 | 27.06.99 | 3 | 14 |
| 5. | Верхнядзвінская раённая арганізацыя | Кудлацкая Валянціна Вас. | с.2-12-79 х. 2-22-91 | 211620, г.Верхнядзвінск, вул.Дзяржынскага, 11 | 27.06.99 | 3 | 17 |
| 6. | Гарадоцкая раённая арганізацыя | Гаравы Леанід Антонавіч | (8-8239)х.2-38-42 с.3-95-45 | 211540, г.Гарадок, вул.Гагарына, д.30-б-16 | 14.05.99 | 6 | 59 |
| 7. | Глыбоцкая раённая арганізацыя | Ляшонак Фама Васільевіч | х.2-10-48 | 211800, г.Глыбокае, вул.Чыр. партызан, 20а | 14.05.99 | 3 | 16 |
| 8. | Полацкая гарадская арганізацыя | Гарэлікава Тамара Пятроўна | х.4-36-28 с.4-24-49 | 211400 г.Полацк, пр-т К.Маркса, д.2 кв.124 | 14.05.99 | 7 | 179 |
| 9. | Полацкая раённая арганізацыя | Качаргіна –Хацкевіч Людміла Аляксандраўна | х.99-6-35 | 211429, Віцебская вобласць, Полацкі р-н, в.Палата, вул.Лясная, 27 | 14.05.99 | 11 | 89 |
| 10. | Наваполацкая гарадская арганізація | Рымша Аляксандар Георг. | х.2-71-94 | 211440, г.Наваполацк, вул.Маладзёжная, 121-9 | 14.05.99 | 3 | 35 |
| 11. | Пастаўская раённая арганізацыя | Гіль Міхаіл Нікадзімавіч | (02155) 2-17-84 | 211840, г.Паставы, вул.Бальнічная, 11 | 14.05.99 | 3 | 14 |
| 12. | Шаркаўшчынская суполка | Райчонок Ада Эльсеўна | х.2-43-24 | 211910, Шаркаўшчынскі р-н, в Германавічы | 14.05.99 | 1 | 13 |
| 13. | Ушацкая раённая арганізацыя | Варатынская Галіна Алякс. | с.2-13-61, 2-11-52 | 211480, г.п.Ушачы, вул.Ленінская, 6-15 | 14.05.99 | 4 | 14 |
| 14. | Коханаўская суполка (маладзёвая) | Давыдчук Сяржук | х.2-92-96 | 211060,Талачынскі р-н, в.Коханава, д.2,кв.4 | 27.06.99 | 1 | 11 |





*Прафесар Грынчык М.М.*

# ПРАБЛЕМА ГУМАНІЗМУ У БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ПАРЭФОРМЕННАГА ПЕРЫЯДУ

Новая беларуская літаратура зараджалася на багатых гуманістычных традыцыях папярэдняга этапу і, у першую чаргу, на традыцыях Ф.Скарыны і М.Гусоўскага, а пазней, выкарыставаючы вялізарны досвед еўрапейскіх літаратур, асабліва блізкамоўных славянскіх. Яшчэ з часоў першага беларускага Адраджэння (ХУІ ст.), культурна-асветніцкай дзейнасці Скарыны, яго сучаснікаў і паслядоўнікаў гуманізм становіцца духоўнай асновай, унутраным пафасам шматграннай грамадскай і культурнай дзейнасці першага пакалення беларускіх адраджэнцаў ХУІ стагоддзя. У яе аснове хрысціянская этыка і мараль. Імкненне палепшыць жыццё "простага народа", "люду паспалітага" шляхам удасканалення саслоўных адносін паміж багатымі і беднымі, шляхам распаўсюджання духоўнай культуры і асветы. Трагічны досвед Т. Мюнцэра – сучасніка Скарыны – засведчыў, што іншага шляху няма.

Гэтыя гуманістычныя традыцыі былі паспяхова прадоўжаны і ўзняты на новы сацыяльна-гістарычны ўзровень у творчай дзейнасці прадстаўнікоў новай беларускай літаратуры пачатку ХІХ стагоддзя у т.зв. рамантычна-этнаграфічнай плыні (Я.Баршчэўскі, Я Чачот, А.Вярыга –Дарэўскі, А.Рыпінскі, В.Каратынскі і інш.). Сваё завяршэнне гэтая тэндэнцыя знаходзіць у творчасці першага прафесійнага пісьменніка В. Дуніна-Марцінкевіча: па сутнасці ўся яго багатая літаратурная спадчына прысвечана адной, надзвычай высакароднай і гуманнай ідэі – ідэі маральнай рэабілітацыі беларускага прыгоннага сялянства якраз напярэдадні рэформы 1861 года.

У гэтых адносінах яна апярэджвала многія, больш развітыя еўрапейскія літаратуры і станоўча ўплывала на стаўленне гуманістычных ідэй свайго часу. Так званая "тэорыя класавага салідарызму" у творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча – гэта па сутнасці трансфармацыя формулы прагрэсу Ф.Скарыны ў новых гістарычных умовах, значна ўзбагачаная і паглыбленая новымі нацыянальнымі кампанентамі на стадыі іх інтэнсіўнага (фармавання пасля "вясны народаў" 1848г. Тэорыя класавага салідарызму аказвала прыкметны ўплыў на многія сферы грамадскай самасвядомасці (асабліва на творчасць так званых пачынальнікаў у дарэформенны перыяд).

Такім чынам, гуманізм становіцца дамінантнай рысай беларускай літаратуры на пачатковым этапе яе зараджэння і фармавання нацыянальна-патрыятычнай праблематыкі. Усё, што пярэчыла гэтаму універсальнаму прынцыпу гуманізму, спачування да народа, своеасаблівага эпітэту народнай маралі і традыцый па сутнасці заставалася паза межамі сапраўднага мастацтва, яго эстэтычных норм і арыентацый.

Аднак магутны ўздым нацыянальна-вызвольнай барацьбы народаў Еўропы ў І палове ХІХ ст. засведчыў, што гуманізм літаратуры – катэгорыя не іманентная, нязменная, а цесна звязаная з сацыяльна- гістарычным лёсам свайго народа, яго імкнення да лепшай, свабоднай будучыні.

Натуральнае, што навізна эстэтычных крытэрыяў найбольш выразна выступае ў публіцыстычных жанрах паэзіі і прозы, прызначаных для непасрэднай і адкрытай агітацыйнай масавай і выхаваўчай работы. Як тут не нагадаць нашу слаўную "Мужыцкую праўду" К. Каліноўскага – выдатны ўзор патрыятычнай публіцыстыкі ў сусветнай літаратуры, які стаіць побач з такімі славутымі выданнямі як "Колакал" Герцана, рэвалюцыйна-патрыятычнымі лістоўкамі Дж.Гарыбальдзі, публіцыстыкай "Маладой Еўропы" і інш.

Пры ўсёй жорсткасці палітычнай палемікі, накіраванай супраць "жандарма Еўропы" – расейскага царызму пераважаючым тут застаецца гуманістычны пафас, ідэя абароны прыгонных сялянскіх мас, у тым ліку і рускіх, сцвярджэнне іх чалавечых правоў, абарона слабейшых перад брутальнай сілай манархічных структур.

Па сутнасці размова тут ідзе пра абарону безабаронных людзей, пра іх фізічнае і маральнае выратаванне, пра іх далейшае існаванне. Калі мець на ўвазе менавіта такое разуменне збройнага чыну паўстанцаў Каліноўскага, то яно па сутнасці не выходзіць за межы традыцыйнага. Прэцэндэнт ужо існаваў: гэта класічныя біблейскія ўзоры актыўнага гуманізму, які здольны не толькі абараніць сябе, але бязлітасна знішчыць ворага-чужаземца. Так, у вядомай прадмове Ф.Скарыны да кнігі "Юдзіф" услаўляецца ваенны подзвіг жанчыны, якая вымушана пайсці на жорсткасць, ратуючы родны горад Вефулію. Такая псіхалагічная матывацыя жорсткасці ўласціва многім біблейскім кнігам – яна не страціла сваёй актуальнасці і ў новы час – у перыяд фармавання нацый, фармавання іх ідэалагічных асноў і пастулатаў, абумоўленых ідэяй вызвалення, перспектывай свабоднага развіц-ця.

Менавіта так разумеў будучыню ўсіх славянскіх народаў пасля перамогі над ненавісным рускім царызмам у 1863 годзе Міхаіл Бакунін: "Я думаю, што Украіна... і Беларусь будуць самастойнымі сябрамі агульнаславянскага саюза. Я патрабую толькі аднаго, каб кожнаму народу, кожнаму малому ці вялікаму племю былі дадзены мажлівасці самім вырашаць свой лёс". Так пісаў ён у вядомай адозве "Да расейскага, польскага і ўсіх славянскіх народаў", апублікаванай пазней у літаратурнай газеце Герцана "Колокол" напярэдадні паўстання 1863 г.

Арганічны гуманізм нацыянальна-вызваленчай барацьбы, асабліва ў яе абарончых партызанскіх формах ("Дубина народной войны", Л. Толстой), дзе на першым плане змаганне за элементарныя чалавечыя правы, за права жыць у дружбе з усімі народамі свету, бо на свеце няма народа, які сам хацеў бы ваяваць... — сутнасць публіцыстыкі К. Каліноўскага, яго велізарны ўклад у сусветную духоўную спадчыну.

Менавіта духам такога актыўнага, змагарнага гуманізму прасякнута ўся паэзія Ф. Багушэвіча – актыўнага ўдзельніка паўстання. Нягледзячы на паражэнне паўстання, ён з верай і надзеяй глядзеў у будучыню. Ён верыць у нязломнасць духу "тутэйшага" чалавека, бачыць усе перавагі яго над панамі і чыноўнікамі, цвярозa ацэньвае прычыны трагедыі паражэння. Паражэнне паўстання 1863 года набыло маштабы ўсенароднай трагедыі, аднак многія сучасныя гісторыкі лічаць яе правінцыяльнай драмай " шляхоцкага мяцяжу", ізаляванага ад шырокіх сялянскіх мас, а таму асуджанага на няўдачу. Аднак факты пярэчаць такім поглядам: так, удзельнікаў і пакараных, згодна з афіцыйнымі звесткамі, было 18507: з іх 833 павешаных, відаць сюды не ўвайшлі паўстанцы пакараныя на месцах бою: Косаў, Няхачаў, Жыровіцы і інш. 6024 чалавекі аддадзены пад нагляд паліцыі, як саўдзельнікі паўстанцаў (сувязныя, кур'еры, многія прыхільнікі паўстанцкага руху і іх сем'і. Вядома прыклад В.Дунін-Марцінкевіч. Астатнія сасланы ў Сібір.

Такім чынам, з поўнай падставай можна гаварыць аб масавасці нацыянальна-вызвольнага руху на Беларусі, Літве і Польшчы, а часовае паражэнне тлумачыцца не пасіўнасцю сялянства, а тагачаснай структурай грамадства. Між іншым поспех "вясны народаў" 1848 г. тлумачыцца не актыўнасцю венгерскага ці італьянскага сялянства, а актыўнасцю гарадскіх нізоў, разначыннай інтэлігенцыі, слабасцю імперскіх структур Аўстра-Венгрыі. Тут яны адставалі ад сваіх паўночна-ўсходніх "жандармаў Еўропы" Прусіі і Расеі.

Такім чынам, паўстанне 1863 г. было не выпадковым бунтам радыкальнай шляхты, а ўсенародным змаганнем у абарону сваіх нацыянальных і чалавечых правоў, г.зн. глыбока гуманным і заканамерным па сваёй маральнай і палітычнай сутнасці. Гэты факт красамоўна пацвярджае беларуская літаратура парэформеннага часу.

Менавіта зыходзячы з пазіцый К.Каліноўскага, яго аднадумцаў, г.зн. з пазіцый актыўнага гуманізму Ф. Багушэвіч працягвае гэтую традыцыю, хоць у іншых умовах і іншымі метадамі. Навізна гуманістычнай канцэпцыі Ф.Багушэвіча заключаецца ў тым, што яна арганічна звязана з ідэяй нацыянальнага Адраджэння Беларусі. Працягваючы ідэі К.Каліноўскага, ён спалучае ідэю сацыяльнага разняволення сялянства з нацыянальным адраджэннем народа, апорай на яго духоўныя традыцыі і культурныя здабыткі, у першую чаргу, на родную мову. Працягваючы традыцыі В.Дуніна-Марцінкевіча і яго паслядоўнікаў, Ф.Багушэвіч прыдае ім гістарычную маштабнасць і абгрунтаванасць, разглядаючы іх у кантэксце новых сацыяльна-гістарычных з'яў і працэсаў.

Зыходзячы з рэалістычных традыцый, узнімаючы мастацкую творчасць да патрэб і імкненняў беларуса, у цэнтры сваёй творчасці ён ставіць вобраз героя, які пачынае ўсведамляць сваё месца ў жыцці, сваю стваральную місію, сваю чалавечую годнасць. Ідэя маральнай рэабілітацыі змяняецца тут усведамленнем чалавечай годнасці, павагі да ўсіх нацый і народаў. Ідэя ўзвышэння чалавека з народа, ідэя гуманістычнага самасцвярджэння, якая пазней у Я.Купалы будзе сфармулявана як адраджэнскі дэвіз "людзьмі звацца". І зусім іншая сітуацыя у Беларусі, Літве, Польшчы дзе асноўнай крыніцай папаўнення было сялянства. Стэфан Жэромскі бліскуча паказаў умовы змагання ў цэнтральнай Польшчы (раман "Верная рака" у выдатным беларускім перакладзе з польскай мовы М. Б. Дубянецкага).

Так, маральны кодакс лірычнага героя Ф. Багушэвіча, яго сучаснікаў і паслядоўнікаў (Я.Лучына, А.Гурыновіч, А.Ельскі, М. Косіч і інш.), бадай найбольш яскрава выяўлены ў вершы "Ахвяра", дзе на першы план вылучаны рысы патрыятызму і сапраўднай чалавечнасці:

Маліся ж, бабулька да Бога,  
Каб я панам ніколі не быў,  
Не жадаў бы ніколі чужога,  
Сваё дзела, як трэба, рабіў.

Каб за край быў  
умерці гатоў,  
Каб не прагнуў  
айчызны чужых,  
Каб я Бога свайго не акпіў  
Каб не здрадзіў  
за грошы свой люд.

Каб сваю мне  
зямельку араць.  
І ўмерці на ёй хоць калі.  
Дык прасі ж ты ў Бога, малі  
Каб я панам ніколі не быў!"

Алесь Ставер

## БАЛАДА ПРА БЕЛАРУСКІ СЦЯГ

Грунвальдская бітва. Бушуюць пажары.  
Над полем, над гаем удушлівы дым.  
Чужынцы нахлынулі цёмнаю хмарай, —  
Радзеюць славянскага войска рады.  
Патрэбна падмога. Патрэбна падмога.  
Інача загіне краіна ў агні.  
Юнак-беларус палявою дарогай  
З завостранай пікай імчыцца на кані.  
У бітве ён страціў малодшага брата, —  
Ад гора сляза на павейках імжыць.  
Дадому забег ён. А брат сярод хаты  
На белай пасцілцы знямелы ляжыць.  
Пакутна ўзнялася ссівелая маці, —  
У позірку маці жальба і дакор:  
—Уранку прывезлі.. Пакінулі ў хаце...  
Ад ранаў крывавых саколік памёр...  
Над братам загінуўшым даўшы прысягу,  
Пасцілку на піку юнак нанізаў, —  
Пад бел-чырвон-белым разгорнутым сцягам  
Падмогу па вёсках склікаць паімчаў.  
Убачыўшы сцяг той, збуджаліся вёскі,  
На покліч ваякі ішлі грамадой, —  
Сабралася хутка вялікае войска, —  
І рушыла войска на праведны бой.  
Нястрымнай лавінай імчаліся коні.  
Маланкамі кроілі неба мячы.  
Магутны парыў той рашучай пагоні.  
Стрымаць не ўдалося нікому нічым.  
З тых дзён не адно прамінула стагоддзе, —  
Нямала вады ў акіяны сплыло...  
Пра сцяг беларускі казалі ў народзе,  
А сцягу шмат часу нябачна было, —  
Як быццам у бітве згубіўся ён недзе...  
Мы доўга з надзеяй глядзелі ў прасцяг, —  
У дымных стагоддзях жадаючы угледзяць  
Сваёй незалежнасці, мужнасці сцяг.  
Нарэшце ўзышоў ён світальнай зарою,—  
Прабіўся праз цемру, развеяў хаўрус.  
Свяціць яму ярка над роднай зямлёю, —  
Пакуль будзе жыць хоць адзін беларус.

## Запаветы Скарыны

*Усялякае слова, Богам натхнёнае, — карысна! Яно вучыць, выкрывае, выпраўляе і карае!*  
*Францішак Скарына.*

Прыходзіць час, харошыя сябры,  
З крыніцы  
нашых продкаў  
прычасціцца.  
У ёй звіняць іскрыначкі зары  
І будучыня Бацькаўшчыны сніцца.  
Таму запавяшчаю, дружбакі,  
Жывыя струны абуджаць у сэрцы.  
Збірайце вы ў дзівоснае вядзерца  
Айчынныя імёны і вякі!  
Вы маеце Дзяржаву – школьны клас,  
А ў ім  
нібыта піраміды –  
парты...  
Вы – заўтрашні народ.  
Пакажа час.  
Хто тут вучыўся ўдумлівы, упарты.  
Калі развеецe  
Стагоддзяў дым, —  
Адкрыю скарбы старажытных ведаў:  
У роднай мове –  
тайны запаветаў,  
Чароўны ключ –  
у Слове залатым!

*Сяргей Панізнік.*

